# Голас Радзімы

№ 14 (2000)
2 красавіка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




*Выйшаў 2000-ны нумар «Голасу Радзімы». Беларусы больш як у 60 краінах свету кожны тыдзень з нецярплівасцю чакаюць сваю газету. «Голас Радзімы» дапамагае ім не так востра адчуваць адарванасць ад Бацькаўшчыны, сваю адзіноту, прыносіць добрыя весткі з родных мясцін. Газета— надзейны дарадца і крыніца праўдзівай інфармацыі аб усім, што адбываецца на Радзіме.*

**Прыязджаючы ў Мінск, нашы замежныя суайчыннікі спыняюцца звычайна ў гасцініцах «Юбілейная» або «Планета». Па ўзроўню камфортнасці і сервісу гэтыя атэлі лічацца лепшымі ў сталіцы рэспублікі. Але цяпер у іх з'явіўся сур'ёзны канкурэнт — гасцініца «Беларусь» (на здымку), якая таксама размешчана ў раёне праспекта Машэрава. Адкрылася яна ўсяго некалькі тыдняў назад, але ўжо стала даволі папулярнай сярод гасцей Мінска. (Працяг фотарэпартажу змешчаны на 3-й стар.).**

БЕЛАРУСЬ І ААН

## ПІСЬМО ПАСТАЯННАГА ПРАДСТАЎНІКА

У якасці афіцыяльнага дакумента Генеральнай Асамблеі ААН у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый распаўсюджана пісьмо пастаяннага прадстаўніка Беларускай ССР пры ААН Л. Максімава генеральнаму сакратару ААН Х. Перэсу дэ Куэльяру, у якім змешчана інфармацыя аб правядзенні ў БССР Міжнароднага года міру.

У ходзе розных міжнародных форумаў, гаворыцца, у прыватнасці, у пісьме, Беларуская ССР актыўна падтрымала ўсе буйнамаштабныя ініцыятывы, якія ўвасабляюць новае палітычнае мысленне і накіраваны на прадухіленне ядзернай катастрофы, захаванне міру і абарону цывілізацыі, на хутчэйшую ліквідацыю існуючых на планеце ачагоў напружанасці і прадухіленне новых, на сусветнае развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў розных галінах.

На 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН БССР выступіла ініцыятарам прыняцця рэзалюцыі аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі, стала сааўтарам рэзалюцый аб неадкладным спыненні і забароне выпрабаванняў ядзернай зброі, аб забароне хімічнай і бактэрыялагічнай зброі, аб распрацоўцы дэкларацыі аб умацаванні прынцыпу непрымянення сілы ў міжнародных адносінах, аб праве народаў на жыццё, аб праве народаў на мір. Беларуская ССР падпісала і ратыфікавала прынятыя спецыяльнай сесіяй Генеральнай канферэнцыі МАГАТЭ канвенцыі аб аператыўным інфармаванні аб ядзернай аварыі і аб дапамозе ў выпадку ядзернай аварыі або радыяцыйнай аварыйнай сітуацыі.

Беларуская ССР прыняла актыўны ўдзел у кансультатыўнай нарадзе прадстаўнікоў нацыянальных камісій па правядзенню Міжнароднага года міру, якая адбылася ў Рыме з 4 па 5 ліпеня 1986 года, у міжнароднай рэгіянальнай канферэнцыі ААН для няўрадавых арганізацый, якая праходзіла ў маі 1986 года ў Тбілісі. На першай сесіі 1986 года Эканамічнага і сацыяльнага савета (ЭКАСОС) БССР стала сааўтарам рэзалюцыі аб укладзе эканамічных органаў ААН у Міжнародны год міру.

ВІЗІТЫ

## СУСТРЭЧЫ Ў ПРАЗЕ

Пытанні далейшага развіцця супрацоўніцтва паміж беларускімі і чэхаславацкімі прадпрыемствамі былі абмеркаваны на сустрэчы намесніка Старшыні ўрада ЧССР П. Грыўняка з дэлегацыяй Беларускай ССР на чале з намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР А. Пятровым. Асаблівую ўвагу бакі ўдзялілі развіццю прагрэсіўных форм узаемадзеяння, у тым ліку наладжванню прамых сувязей паміж прадпрыемствамі і аб'яднаннямі.

У час знаходжання дэлегацыі БССР у ЧССР быў падпісаны дагавор аб развіцці супрацоўніцтва беларускіх прадпрыемстваў з чэхаславацкімі партнёрамі ў галіне абутковай прамысловасці.

ПАСЯДЖЭННІ

## У КАМІСІІ ПА СПРАВАХ ЮНЕСКО

У сталіцы рэспублікі адбылося чарговае пасяджэнне Камісіі БССР па справах ЮНЕСКО, на якім з дакладам выступіў старшыня камісіі, намеснік міністра замежных спраў БССР А. Шэльдаў. Былі абмеркаваны шляхі павышэння эфектыўнасці ўдзелу рэспублікі ў дзейнасці ЮНЕСКО.

Камісія прыняла адпаведную пастанову.

ПЕРСПЕКТЫЎНАЯ ТЭХНАЛОГІЯ

## ХВОЙНЫЯ АКСЕЛЕРАТЫ

Цэлюлозна-папяровую прамысловасць еўрапейскай часткі краіны цалкам можна забяспечыць не прывазной сыравінай, а мясцовай, атрыманай не з лесу, а са спецыяльных плантацый. Да такога вываду прыйшлі вучоныя Беларусі і Ленінграда, якія распрацавалі тэхналогію паскоранага вырошчвання сасны і елкі.

Разлікі вучоных паказваюць, што пры тэхналогіі паскоранага вырошчвання сабекошт кубічнага метра падрыхтаванай да перапрацоўкі сасны з улікам усіх затрат на догляд, нарыхтоўку, транспарт і нават будаўніцтва аўтадарог складзе крыху больш трыццаці рублёў — на пяць рублёў танней, чым гэта абыходзіцца пры нарыхтоўцы драўніны ў звычайным лесе.

БУДАЎНІЧАЯ ІНДУСТРЫЯ

## «КАМЕННЫ ПОЯС» ПАЛЕССЯ

Тысячу кіламетраў шашы можна пракласці з прадукцыі, якую выпусціць за год новы драбільна-сартавальны завод мікашэвіцкага вытворчага аб'яднання «Граніт», што на Брэстчыне. Першая яго чарга магутнасцю мільён кубаметраў шчэбеню ў год пачала пастаўляць будаўнічы матэрыял. Такую ж яго колькасць будзе выпрацоўваць і другі комплекс, які ўзводзіцца тут.

Доўгі час прырода хавала на Палессі свой гранітны скарб. Цяпер тутэйшыя прамысловыя запасы мінералу лічацца буйнейшымі ў краіне, таўшчыня «каменнага пояса» перавышае 180 метраў.

Адначасова з вытворчай базай расшыраюцца і кар'еры, дзе граніт здабываецца адкрытым бура-ўзрыўным спосабам. Да канца пяцігодкі магутнасці заводаў аб'яднання дасягнуць васьмі мільёнаў кубаметраў шчэбеню ў год, рэспубліка зможа поўнасцю забяспечыць патрэбнасці ў гэтым будаўнічым матэрыяле за кошт мікашэвіцкага каменя.

КАШТОЎНЫ ПРЭПАРАТ

## НАДЗЕЙНЫ БІЯСІЛ

На Нясвіжскім біяхімічным заводзе асвоены выпуск новага кансерванту. Кожны кілаграм біясілу — так называецца прэпарат — дае не менш тысячы [illegible]ёў прыбытку.

Новы [illegible]нсервант адпавядае лепшым сусветным узорам. Гэта не хімічнае рэчыва, а размножаныя ў спецыяльных ёмістасцях карысныя бактэрыі чатырох відаў, знойдзеныя спецыялістамі навукова-вытворчага аб'яднання «Белбіятэхналогія». Бактэрыі знішчаюць гніласныя і іншыя шкодныя мікраарганізмы. Усяго дзесяць-пятнаццаць грамаў рэчыва захоўваюць на ўвесь стойлавы перыяд у свежым выглядзе тону аднагадовых і шматгадовых траў, бабова-злакавых сумесей, кукурузы, сланечніку, іншай кармавой расліннасці. Біясіл не толькі абсалютна бясшкодны для чалавека і жывёлы, але абагачае бялкамі і мікраэлементамі кармы, павышае іх пажыўнасць.

Для выпуску каштоўнага кансерванту нясвіжскія біяхімікі ўсяго за месяц пераканструявалі адзін з цэхаў біяпрэпаратаў, вызвалілі вытворчую плошчу і змантаваралі спецыяльную лінію для вырошчвання каштоўных бактэрый. Першую партыю іх адправілі ў гаспадаркі Гродзенскай, Мінскай і Маскоўскай абласцей.

НА ГАЗАВЫМ ПАЛІВЕ

## У ДАЛЁКІ РЭЙС

Далёкія рэйсы на газавым паліве змогуць цяпер рабіць аўтамабілі, якія едуць па трасе Мінск — Брэст. У Баранавічах — горадзе, размешчаным прыкладна на паўдарозе паміж двума гэтымі пунктамі, пачала дзейнічаць газазаправачная станцыя. Яна можа забяспечваць палівам да 500 грузавых аўтамабіляў у суткі.

Машыны, абсталяваныя газабалоннымі ўстаноўкамі, шырока скарыстоўваюцца на перавозцы грузаў у гарадах Беларусі — яны зручныя ў эксплуатацыі, эканамічныя, экалагічна бясшкодныя.

Аднак адной газавай запраўкі хапае толькі на 200 кіламетраў. Таму на далёкіх міжгародніх рэйсах усе гэтыя перавагі не скарыстоўваліся. Цяпер з'явілася магчымасць рацыяналізаваць грузаперавозкі і тут.

У бягучай пяцігодцы ў Брэсцкай вобласці намечана пабудаваць і ўвесці ў дзеянне яшчэ дзве заправачныя станцыі такой жа магутнасці — у Кобрыне і Бярозе.

АХОВА ЗДАРОЎЯ



Выкананы адзін з сацыяльных заказаў жыхароў горада Баранавічы. Тут пабудавана дзіцячая паліклініка на 480 наведванняў у змену з водагразелячэбніцай, двума плавальнымі басейнамі. За год у Брэсцкай вобласці на будаўніцтва медыцынскіх установаў выдаткавана звыш 7 мільёнаў рублёў.

**НА ЗДЫМКАХ:** участковы ўрач Святлана **КАБАНАВА** на прыёме хворых; у інгаляторыі паліклінікі.



НА ПРЫПЯЦІ

## НАВІГАЦЫЮ АДКРЫВАЕ ЛЕДАКОЛ

Адразу некалькі ледаколаў занялiся сваёй прывычнай работай на Прыпяці. Яны выйшлі насустрач адзін аднаму з акваторыі Пінскага суднабудаўніча-суднарамонтнага завода і ад прычалаў мікашэвіцкага порта аб'яднання «Граніт».

За кошт паскарэння пачатку навігацыі і іншых мер палескія рачнікі намецілі перавезці ў гэтым сезоне 3,5 мільёна тон народнагаспадарчых грузаў — пяску, шчэбеню, граніту, іншых будаўнічых матэрыялаў. Гэта больш, чым у мінулыя гады. Для металургаў ГДР водным шляхам будзе дастаўлена ў Брэсцкі порт каля 600 тысяч тон жалезнай руды, што дазволіць вызваліць значную частку чыгуначнага транспарту.

З гэтай жа мэтай — у разліку на павелічэнне аб'ёмаў перавозак — за шэсцьдзесят кіламетраў ад Пінска пабудаваны новы механізаваны прычал, рэканструявана за апошнія гады значная частка Дняпроўска-Бугскага канала.

ЮБІЛЕЙ ШКОЛЫ

## У ТРЭЦЯЕ СТАГОДДЗЕ

Астравецкай сярэдняй школе, што на Гродзеншчыне, споўнілася дзвесце год. Па сведчанню архіўных дакументаў, адну са старэйшых навучальных устаноў рэспублікі ў свой час наведвала толькі пяцёра дзяцей, а адзіным іх настаўнікам быў арганіст, які выкладаў чытанне, пісьмо і чатыры дзеянні арыфметыкі.

Не пазнаць сёння школу, як і сам пасёлак. У трохпавярховым будынку — дзесяткі вучэбных кабінетаў, актавая і спартыўная залы, вытворчыя майстэрні. Разам з дакументамі аб адукацыі выпускнікі атрымліваюць пасведчанні вадзіцеляў. Летась у раённым цэнтры, які хутка расце, адкрылася другая дзесяцігодка.

ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА

## ВАРТАВЫЯ ВЯКОЎ

Восем дубоў-патрыярхаў, якія растуць у Буда-Кашалёўскім раёне, маюць пашпарты, у якіх ёсць фотапартрэт, узрост і адрас. Амаль усе дрэвы «размянялі» трэцяе стагоддзе. Вышынёй яны 30 і больш метраў, у абхваце да паўтара метра. Дэндролагі ўстанавілі адну асаблівасць: карані дубоў у паўтара раза «вышэйшыя» за іх наземную частку, сярод іх ёсць і магутныя «якарныя», здольныя ў засушлівы год здабываць вільгаць на вялікай глыбіні.

«Вартавыя вякоў», як назваў зялёныя волаты паэт М. Лермантаў, не толькі ўпрыгожваюць пушчы. Іх магутныя кроны ачышчаюць паветра, кормяць лясных насельнікаў.

## НАВАСЕЛЛЕ Ў ЗУБРОЎ

Пяць зуброў перавезены з Белавежскай пушчы ў Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік. Гэта ўжо чацвёртая ў нашай рэспубліцы зона пражывання лясных волатаў, занесеных у Міжнародную чырвоную кнігу і Чырвоныя кнігі СССР і БССР.

Некалькімі гадамі раней групы гэтых жывёлін пасялілі ў Налібоцкай пушчы і Бярэзінскім запаведніку, дзе яны прыжыліся і даюць патомства. Зуброў Белавежы перавезлі таксама ў прыокскія і каўказскія лясы, іншыя месцы. Гэтаму віду жывёл небяспека больш не пагражае. Толькі ў Белавежскай пушчы, якая стала міжнародным цэнтрам аднаўлення рэдкіх жывёлін даледавіковага перыяду, цяпер знаходзіцца звыш двухсот зуброў.

АДПАЧЫНАК ГАРАДЖАН

## СТВАРАЕЦЦА ВОЗЕРА

На паўночнай ускраіне Драгічына — раённага цэнтра Брэсцкай вобласці пачаліся земляныя работы па стварэнню вадасховішча. Яно зойме плошчу каля 70 гектараў. Асноўнай крыніцай для напаўнення гэтага рукатворнага возера стане рака Ясельда, якая будзе звязана са штучным вадаёмам дрэнажнымі трубамі.

Возера стане цэнтральнай зонай адпачынку гараджан і жыхароў навакольных вёсак. Вадаём будзе зарыблены, на яго беразе адкрыецца лодачная станцыя.

## ШТО ЗА СЛОВАМ «ПЕРЕСТРОЙКА»

# ПЕРАМЕНЫ Ў ПАЛІТЫЧНАЙ СФЕРЫ

**Рускае слова «перестройка», як некалі «спутнік», увайшло без перакладу амаль ва ўсе мовы свету. Да перабудовы прыкавана ўвага шырокай замежнай грамадскасці.**

Пераўтварэнні, якія адбываюцца ў Савецкім Саюзе пасля XXVII з'езда КПСС, выклікаюць на Захадзе самыя розныя меркаванні. Факт перамен, зразумела, не адмаўляецца. Спрачаюцца аб іх глыбіні, радыкальнасці, выніках.

Фактычная карціна ва ўсіх на вачах: няма ніводнай галіны грамадскага жыцця, якую б не закранула перабудова. Працэс абнаўлення набірае сілу. У яго актыўна ўключаюцца дзесяткі і дзесяткі мільёнаў людзей.

У чым сэнс перабудовы, якая яе галоўная мэтавая ўстаноўка? Гаворачы коратка — вызваленне вялікіх стваральных магчымасцей сацыялістычнага ладу, якія па шэрагу суб'ектыўных і аб'ектыўных прычын аказаліся заблакіраванымі і выкарыстоўваліся няпоўна і няправільна. Трэба зламаць механізм тармажэння сацыяльна-эканамічнага развіцця, з-за чаго ва ўсіх сферах жыцця ўтварыліся застойныя зоны, а дзе-нідзе крызісныя з'явы.

Дарога наперадзе няпростая. Ад многага звычнага, а дакладней кажучы, кансерватыўнага савецкае грамадства пазбаўляецца. Пазбаўляецца і ад псіхалогіі «асаджанай крэпасці», можа быць, і вымушанай у нейкі час, але непрымальнай у сучасным свеце. Праблем нялёгкіх, цяжкіх мы ведаем мноства. У іх вырашэнні зроблены пакуль толькі першыя, хаця і важныя, крокі.

Што было і застаецца найбольш складанай задачай у ходзе рэвалюцыйных пераўтварэнняў, якія праводзяцца ў краіне? Вядома ж, адмова ад прывычных уяўленняў, стойкіх стэрэатыпаў, пераарыентацыя свядомасці людзей. Пачынаць давялося з істотнага абнаўлення кадраў кіраўнікоў — партыйных, дзяржаўных. І гэта было зроблена. Пасля красавіцкага (1985 года) Пленума ЦК КПСС за кароткі тэрмін абнавілася вялікая частка Сакратарыята і загадчыкаў аддзелаў Цэнтральнага Камітэта партыі, змяніўся практычна ўвесь састаў Прэзідыума Савета Міністраў СССР. Значныя змяненні адбыліся не толькі ў верхнім эшалоне, але і на ніжэйшых узроўнях.

Але прыход новых людзей далёка не стопрацэнтна гарантуе, што кожны з іх зможа працаваць па-новаму. Кадры павінны быць пастаўлены ў такія ўмовы, якія абавязвалі б іх дзейнічаць па-новаму.

Узяць, скажам, праблему пераадолення такіх негатыўных з'яў, як карупцыя, казнакрадства, фаварытызм. Можна скарыстоўваць у гэтых мэтах адміністрацыйныя сродкі. І гэта робіцца. Але дзе гарантыі, што з часам усё не вернецца назад? Такія гарантыі ёсць. Гэта паглыбленне сацыялістычнага дэмакратызму, сцвярджэнне сацыялістычнага самакіравання народа. У гэтым і заключаўся галоўны сэнс работы студзеньскага (1987 года) Пленума ЦК КПСС.

Намечана шырокая сістэма мер для таго, каб адкрыць дарогу самай магутнай стваральнай сіле сацыялізму — свабоднай працы і свабоднай думцы ў свабоднай краіне.

Аб чым канкрэтна размова? Перш за ўсё аб укараненні самакіраўніцкіх пачаткаў у работу працоўных калектываў, увядзенне выбарнасці кіраўнікоў прадпрыемстваў, вытворчасцей, цэхаў, аддзяленняў. Ствараецца якасна новая сітуацыя, калі для занящця кіруючай пасады патрабуецца заваяваць прызнанне калег па рабоце, гэта значыць калектыву, ды і вытрымаць «спаборніцтва» з канкурэнтамі.

Сур'ёзныя змяненні ў мэтах паглыблення дэмакратызму выбарчай сістэмы будуць ажыццёўлены на агульнадзяржаўным узроўні. Напрыклад, на перадвыбарных сходах і ў ходзе саміх выбараў у далейшым павінны абмяркоўвацца і выстаўляцца, як правіла, некалькі кандыдатур. Праект адпаведнага заканадаўчага акта будзе вынесены на ўсенароднае абмеркаванне.

У поўнай меры працэс перабудовы, дэмакратызацыі тычыцца партыі савецкіх камуністаў. Больш таго, ён пачынаецца з партыі. Цяпер сакратары партыйных камітэтаў будуць выбірацца тайным галасаваннем. Пры гэтым у спіс для галасавання можа ўключацца любая колькасць кандыдатаў. Закрануць перамены і фарміраванне цэнтральных кіруючых органаў партыі.

Больш сацыялізму, больш дэмакратыі, пастаянна падкрэслівае М. Гарбачоў. І гэта не толькі заклік, гэта тое, што робіцца ў краіне, гэта тое, што ўздымае дух людзей, якія выступаюць галоўнымі гарантамі ажыццяўлення радыкальных пераўтварэнняў у савецкім грамадстве.

Абнаўленне — працэс цяжкі. Вядома, ён задавальняе не ўсіх. Аб нейкай арганізаванай палітычнай апазіцыі ў СССР размовы няма. Але хапае тых, хто сумняваецца, хапае рэтраградаў, хто сцвярджае, што не варта спяшацца, што публічнасць павінна быць лімітавана. Ёсць, як у кожным грамадстве, абывакавыя, а таксама тыя, каму чужыя грамадскія інтарэсы. Ёсць і праціўнікі, для якіх перабудова паварочваецца стратай прывычнага становішча, новай строгай мерай адказнасці за ўласную працу на любой пасадзе. Паглыбленне сацыялістычнага дэмакратызму не абмяжоўвае толькі адну ўладу — уладу народа, грамадства і выключае самаўпраўства адміністрацыі.

Скарыстоўваючы «хірургічныя» меры, грамадства пазбаўляецца ад збанкрутаваных кіраўнікоў. Скарыстоўваючы метад публічнасці, крытыкі, самакрытыкі, яно пераконувае нават праціўнікаў. Але галоўнае — глыбокая, доўгая і неабходная тэрапія, сутнасць якой якраз заключаецца ў сцвярджэнні самакіравання народа, у паглыбленні сацыялістычнага дэмакратызму.

**Мікалай ШЫШЛІН.**

# ЗАПРАШАЕ «БЕЛАРУСЬ»

**КАЛІ ВЫ спытаеце ў мінчаніна, як дабрацца да гасцініцы «Беларусь», ён абавязкова перапытае, якая «Беларусь» вас цікавіць — старая ці новая. Справа ў тым, што да нядаўняга часу гэту назву насіла невялікая гасцініца (усяго 160 нумароў), якая размешчана ў цэнтры горада на вуліцы Кірава. Пабудавана яна была яшчэ да вайны. Пасля фашысцкай акупацыі яе паднялі з руін, і «Беларусь» яшчэ многія гады лічылася лепшым атэлем Мінска. Пазней былі пабудаваны больш сучасныя, і яна адышла на другі план. А цяпер вось і назву давялося ўзяць менш гучную — «Свіслач».**

**Што ж тычыцца новай «Беларусі», дык думаецца, яна па праву атрымала такую назву. Гэта самы буйны атэль нашай рэспублікі, які да таго ж прэтэндуе (і не без падстаў) быць заканадаўцам сталічнага сервісу. Тут адначасова можа размясціцца тысяча чалавек. Павышаным камфортам вызначаюцца двухпакаёвыя і трохпакаёвыя «люксы». Іх два дзесяткі. Астатнія 529 нума[illegible] маюць першую катэгорыю, якая таксама гарантуе ўтульнасць і максімум зручнасцей. Першыя госці «Беларусі» паспелі ўжо гэта ацаніць, пра што сведчаць іх запісы ў кнізе в[illegible]аў.**

**На шостым, дзевят[illegible] трынаццатым і шаснаццатым паверхах новай гасцініцы размешчаны экспрэс-бары. На першым — кафэ і кактэйль-бар. А на апошнім, дваццаць другім паверсе, хутка адкрыецца начны бар. Завяршаецца і будаўніцтва рэстарана, дзе госці змогуць пакаштаваць арыгінальныя стравы беларускай нацыянальнай кухні (гэтым, дарэчы, славіўся рэстаран старой «Беларусі»).**

**У гасцініцы можна атрымаць і самыя разнастайныя бытавыя паслугі, пачынаючы ад рамонту абутку і канчаючы саунай з басейнам.**

**Так што, калі ласка, у «Беларусь»!**

**НА ЗДЫМКАХ: прыехалі новыя госці сталіцы; у фае гасцініцы; адзін з нумароў «Беларусі»; у кактэйль-бары.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**









# «ГОЛАС РАДЗІМЫ» — 2 000. ЧЫТАЧЫ ПРА САВЮ ГАЗЕТУ

**Паважаныя суайчыннікі—чытачы газеты «Голас Радзімы»!**

**Сённяшні нумар «Голасу Радзімы»—2000-ны! У газеты юбілей! А на юбілеі, як вядома, прынята ўспамінаць, у думках крочачы па пройдзеным шляху, падсумоўваць здабыткі, радавацца і спадзявацца. І рабіць гэта прыемней за ўсё з сябрамі і аднадумцамі. Верныя сябры «Голасу Радзімы»—яго чытачы, вельмі даўнія, якія двухтысячны раз вымуць газету са сваёй паштовай скрынкі, і тыя, да каго весткі з Бацькаўшчыны пачалі прыходзіць нядаўна. Але і для тых, і для другіх, па іх уласных словах, «Голас Радзімы» —вялікая маральная падтрымка, жаданая госця ў доме, спадарожніца жыцця і настаўніца.**

**Многія чытачы памятаюць, што наша газета пачала выходзіць больш трыццаці гадоў назад і называлася яна тады «За вяртанне на Радзіму».**

**...Толькі што скончылася жорсткая, крывапралітная вайна, якая раскідала па свеце дзесяткі тысяч людзей. Адарваныя ад роднага дому, закінутыя на чужыну, адурманеныя і напалоханыя варожай прапагандай, яны нічога не ведалі пра сваіх блізкіх, пра тое, што адбываецца на іх перамогшай, але разбуранай фашысцкім нашэсцем Бацькаўшчыне. Многія жадалі вярнуцца або хаця б з'ездзіць у госці, але не ведалі, што чакае іх ля бацькоўскага парога. «За вяртанне на Радзіму» стала для суайчыннікаў голасам праўды, яна несла добрыя весткі з роднага горада, вёскі, а часам і прывітанне ад бацькоў, сястры, жонкі. У той час у рэдакцыю часта прыходзілі пісьмы з просьбай дапамагчы знайсці блізкіх людзей, і мы друкавалі іх пісьмы пад рубрыкай «Вас шукаюць і чакаюць сваякі». Усе, хто хацеў і каму дазвалялі абставіны, вярнуліся на Радзіму, шчасліва жывуць сярод сваіх людзей. Але для тых, хто вымушаны жыць на чужыне, газета была па-ранейшаму неабходнай, яе чакалі, прачытвалі ад першай старонкі да апошняй, перадавалі суседзям. Вось толькі назва, на думку чытачоў, не зусім адпавядала зместу выдання. Уладзімір Бірукоў з Галандыі пісаў, напрыклад, так: «Газета размаўляе з намі мовай самой Радзімы, якая нясе ўсім нам слова праўды. Ужо таму назва «За вяртанне на Радзіму» не падыходзіць. Самым правільным было б назваць нашу газету «Голас Радзімы». Пажаданне У. Бірукова і многіх іншых землякоў было ўлічана. Са студзеня 1960 года газета стала называцца «Голас Радзімы». Кожны тыдзень яна адпраўляецца з Мінска больш як у 60 краін зямнога шара, дзе яе з нецярпеннем чакаюць чытачы.**

**У свой час, а дакладней, у самым пачатку 60-х гадоў, газета адкрыла шлях на Радзіму сотням і сотням беларусаў. Менавіта тады прыехала ў Мінск першая група сяброў «Русского голоса», якую ўзначальваў Віктар Яхантаў. Яны паверылі таму, што мы пісалі пра іх родную зямлю, і ўсё ж кожны іх крок па ёй, кожная новая сустрэча на заводзе, у калгасе, у дзіцячым садзе, Палацы культуры былі адкрыццём. Землякі здзіўляліся, шт[illegible]дзе не відаць разбурэнняў, пакінутых мінулай вайной, што [illegible]зі сытыя і апранутыя, жывуць у хатах і добраўпарадкаваных кватэрах. Яны бачылі беларускія трактары і аўтамабілі, тканіны і радыёпрыёмнікі і ад душы радаваліся за братоў-беларусаў. Праўда аб Савецкай краіне пашыралася, перадавалася з вуснаў у вусны, і ўсё больш груп і асобных турыстаў наведвалі Мінск, Брэст, Гродна, Навагрудак, іншыя гарады, вёскі і вёсачкі, дзе яны некалі жылі.**

**Яшчэ задоўга да выхаду юбілейнага нумара «Голасу Радзімы» ў рэдакцыю пачалі прыходзіць пісьмы-віншаванні, пісьмы-споведзі, пісьмы-падзякі. «Дакладна не помню, але мне здаецца, што газета прыходзіць да нас з дня выхаду першага нумара,—пішуць з Канады муж і жонка Гаўрыцкія. — Нам на чужыне цікава ведаць, што робіцца на нашай любімай Радзіме. Аб гэтым вельмі добра расказвае газета». Землякі пішуць, што «Голас Радзімы» для іх нібы энцыклапедыя, дзе яны знаходзяць адказы на ўсе хвалюючыя іх пытанні. На яе старонках рэалістычна і аб'ектыўна асвятляюцца ўсе падзеі, якія адбываюцца ў Савецкім Саюзе і ў свеце («Калі б мы не атрымлівалі «Голас Радзімы», то з чым бы мы маглі зверыць, дзе праўда, а дзе хлусня»).**

**Газета часта выконвае просьбы сваіх чытачоў і піша пра Шарашова ці Магілёўшчыну, Вялікую Кракотку ці Астрыно і многія іншыя мясціны. («Вельмі радуюся, калі знаходжу весткі пра Круглае. Я адтуль родам, і мне ўсё цікава»).**

**А Марыя Гарох гаворыць, што, чытаючы беларускую газету, яна не забывае сваю мову, і гэта выклікае ў яе пачуццё гордасці за тое, што яна беларуска.**

**Барацьба за мір, за мірнае суіснаванне, за спыненне гонкі ўзбраенняў і раззбраенне—сёння гэта важнейшыя, надзённыя пытанні для ўсіх сумленных людзей на зямлі. Нашы суайчыннікі, у якой бы краіне яны ні жылі, лічаць сваім абавязкам уносіць пасільны ўклад у гэту адказную і пачэсную справу. («Газета аказвае нам неацэнную маральную падтрымку ў нашай барацьбе за мір. На яе старонках друкуюцца важнейшыя дакументы, якія пацвярджаюць міралюбівую палітыку Савецкага ўрада і даюць нам важкія аргументы ў спрэчках»).**

**Некаторыя з пісьмаў, атрыманых да юбілею газеты, мы змясцілі ў сённяшнім нумары. Але пісьмы яшчэ ідуць і ідуць. І кожнае мы чытаем з радасцю і хваляваннем, лічым іх найвышэйшай адзнакай сваёй працы.**

**Газета ж «Голас Радзімы», як і раней, будзе выконваць пажаданні сваіх зарубежных чытачоў, будзе даносіць да іх праўдзівую інфармацыю аб усіх важнейшых падзеях на Радзіме, будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню духоўных і культурных сувязей зарубежных суайчыннікаў з іх Ба[illegible]аўшчынай. Спадзяёмся, што ў гэтай важнай справе мы і н[illegible]ей будзем адчуваць гарачую падтрымку і шчырыя парады нашых суайчыннікаў.**

---

ХАЧУ выказаць сваё меркаванне аб газеце «Голас Радзімы». Я чытаю яе вельмі даўно, нават ужо не помню, калі першы нумар трапіў мне ў рукі. І ўвесь гэты час «Голас Радзімы» мае для мяне вельмі важнае значэнне. Газета даволі шырока асвятляе падзеі як у Беларусі, так і ва ўсім Савецкім Саюзе. Знаёміць нас з тым, што робіць Радзіма для ўмацавання міру на планеце. Мясцовая прэса стараецца аб гэтым маўчаць. «Голас Радзімы» расказвае аб развіцці сельскай гаспадаркі і прамысловасці, якія ў Беларускай ССР хуткімі тэмпамі рухаюцца наперад. З яе я даведваюся, што жыццё беларускага народа з кожным годам паляпшаецца. А гэта вельмі радасна. Асабліва для мяне, таму што я памятаю Беларусь беднай і разрабаванай. Даўно прайшлі тыя часы, калі людзі жылі без кавалка хлеба.

Ад усёй душы віншую газету «Голас Радзімы» з выхадам у красавіку яе 2000-га нумара. Віншую ўвесь калектыў рэдакцыі, які ўкладвае столькі працы, падбіраючы цікавыя матэрыялы аб жыцці нашай Беларусі, каб мы, хто жыве на чужыне, маглі быць у курсе падзей. Дзякуй вам усім за вашу неацэнную работу.

Што тычыцца нашага жыцця, то тут усё ідзе сваім парадкам. Прымаем актыўны ўдзел у барацьбе за мір, што сёння самае галоўнае. У лютым прыязджалі да нас савецкія артысты, Чырванасцяжны ансамбль песні і танца Савецкай Арміі. Мы ўжо даўно не мелі магчымасці пабываць на такім цудоўным канцэрце. Мы з жонкай Марыяй Юр'еўнай шлём вам наш сардэчны паклон. Жадаем вам здароўя і поспехаў у вашай плённай і высакароднай рабоце! Галоўнае, каб быў мір на зямлі! Астатняе ўсё будзе добра.

**Уладзімір ХІЛЬЧУК.**

Канада.

---

Я ЧЫТАЮ газету «Голас Радзімы» з 1960 года і хачу сказаць, што яна вельмі патрэбна нам, людзям, якія трапілі па волі лёсу за мяжу. Мне яна перш за ўсё прыносіць радасць. Возьмеш у рукі толькі што атрыманы нумар, і здаецца, што знаходзішся дома ў роднай Беларусі. З газеты можна даведацца вельмі многа пра падзеі і жыццё на Радзіме. Прачытаўшы яе, зведваеш такое пачуццё, як быццам і няма паміж намі ніякіх граніц і далёкіх адлегласцей. Вельмі вам удзячная за гэта. Я бачу, што ў Беларусі жыццё людзей з кожным днём паляпшаецца.

А тут, у свеце капіталу, нічога не мяняецца. Калі і мяняецца, то ў горшы бок. Урад умее многа гаварыць, але для людзей нічога добрага не робіць. Яшчэ ўмеюць абгаворваць іншых. Напрыклад, нядаўна шумны натоўп сабраўся на плошчы каля Консульскага аддзела СССР. І на розныя галасы людзі крычалі, што ў Савецкім Саюзе не захоўваюцца правы чалавека. Паліцэйскія спакойна глядзелі на гэтых крыкуноў і толькі ўсміхаліся. Ім не падабаецца, як жывуць у нас на Радзіме. А хіба яны ведаюць хоць крыху праўды пра гэта? Якія ж правы маюць простыя людзі тут, у Італіі? Няма работы, няма дзе жыць. Усё больш расце беспрацоўе, растуць і шэрагі злачынцаў. Забіваюць і рабуюць з такой лёгкасцю, нібы парушаюць правілы пераходу вуліцы. І калі б не было надзеі на тое, што ўсё будзе ціха на нашай планеце і я змагу час ад часу бываць на Радзіме, дык немагчыма было б вынесці ўсе тыя жахі, якія тут пастаянна адбываюцца.

Калі ўсё будзе добра, летам прыеду ў сваю дарагую Беларусь. Вельмі хочацца пабачыць сваіх родных і яшчэ раз сустрэцца з вамі, дарагія сябры з рэдакцыі і Беларускага таварыства «Радзіма».

Вялікі паклон маёй Радзіме!

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

---

ПАВАЖАНЫЯ супрацоўнікі «Голасу Радзімы»!

Вялікае дзя[illegible]за вашу газету, за тое, што вы не забываеце нас, вандроўнікаў за мяжой. Я вельмі ўсцешылася, атрымаўшы ад вас неацэнны для мяне падарунак — каляндар «Радзіма». З вялікай цікавасцю разглядала фатаграфіі розных гарадоў, любавалася, якой прыгожай стала мая родная краіна за гэтыя гады. Нават па тых здымках відаць, што ў Савецкім Саюзе працуюць таленавітыя архітэктары і будаўнікі. Яны ўпрыгожваюць гарады, узводзяць для людзей зручныя кватэры. Задача, пастаўленая партыяй і ўрадам,— забяспечыць да двухтысячнага года кожную савецкую сям'ю асобнай кватэрай, па-сапраўднаму грандыёзная. Мы ведаем, што ў вас пакуль яшчэ ёсць праблемы з жыллём. У гэтым у значнай ступені вінавата вайна, калі было разбурана столькі гарадоў і вёсак.

А тут, у Францыі, праблема з жыллём зусім іншага плана. Ёсць пустыя дамы, і ёсць бяздомныя. Людзям няма чым плаціць за кватэры, таму і вымушаны туліцца, дзе прыйдзецца. Грандыёзная праграма будаўніцтва ў СССР — гэта яшчэ адзін важкі аргумент у нашых спрэчках з праціўнікамі маёй Радзімы. Раз у краіне будуецца столькі жылля, то ясна, што ўсе планы на будучыню звязаны з мірам. А мір сёння — самае неабходнае для людзей. І ўсім нам трэба за яго змагацца. Так думае і большасць французаў, але, на жаль, не ўсе. Ёсць яшчэ вар'яты, якія лі[illegible]ць, што ў барацьбе з камунізмам усе сро[illegible]обрыя. Але іх нямнога, і я спадзяюся, шт[illegible]умеснымі намаганнямі ўсіх сумленных людзей мы зможам забяспечыць мір і назаўсёды пазбавімся ад страху перад вайной. Многія французы цяпер выказваюць жаданне паехаць у Савецкі Саюз, пазнаёміцца з краінай і людзьмі. Ну а як хачу пабываць на Радзіме я, і гаварыць няма чаго. Гэта мая запаветная мара. На жаль, пакуль здароўе не дазваляе. Часта хварэю. Таму асабліва дарага ваша газета «Голас Радзімы», якая вось ужо адзначае свой юбілей — 2000-ны нумар. Яна прыносіць мне вялікую карысць. Я нібыта гутару з блізкімі мне людзьмі пра навіны з Беларусі, чытаю пра знаёмыя гарады, пра жыццё людзей, пра іх радасць, планы. Як многа дасягнула мая Радзіма! І кожны раз мне хочацца сказаць вялікае дзякуй Савецкай уладзе за тое, што дала маім суайчыннікам магчымасць так добра і радасна жыць. Вельмі спадзяюся, што ў хуткім часе прыеду ў Беларусь сама. Тады абавязкова зайду да вас у рэдакцыю, і мы пагаворым больш грунтоўна.

У заключэнне хачу перадаць вам сардэчнае прывітанне ад усіх маіх саюзнікаў у Францыі па барацьбе за мір. Жадаю вам шчасця і трывалага міру на нашай планеце!

**Кацярына МІЦЬКО.**

Францыя.

---

Я З'ЯЎЛЯЮСЯ чытачом вашай газеты, калі не памыляюся, з 1969 года. Убачыў яе ўпершыню ў знаёмых, вельмі ўзрадаваўся, што такая газета ёсць, і неўзабаве «Голас Радзімы» стаў прыходзіць на мой хатні адрас. Крыху пазней у мяне завязалася перапіска з рэдакцыяй. З таго часу газета «Голас Радзімы» стала пастаяннай спадарожніцай майго жыцця. Цяжка ў некалькіх словах напісаць, што яна мне дае. Вельмі многае. Перш за ўсё, на яе старонках рэалістычна і аб'ектыўна асвятляюцца ўсе падзеі, якія адбываюцца на маёй Радзіме. Для чалавека, які жыве за многія тысячы кіламетраў ад роднай зямлі, гэта вельмі важна. З «Голасу Радзімы» я даведаўся пра многія, раней невядомыя мне факты гісторыі Беларусі, пра розныя этапы развіцця і дасягненні рэспублікі з самага пачатку ўстанаўлення ў ёй Савецкай улады і да сённяшняга дня. А дасягненні гэтыя ва ўсіх галінах навукі, тэхнікі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, адукацыі і культуры вельмі значныя. Я ганаруся тым, што наш народ змог дабіцца іх за такі гістарычна кароткі перыяд.

Я вельмі рады, што ўжо на працягу многіх год з'яўляюся пастаянным чытачом газеты «Голас Радзімы». Вы ведаеце, што тут, у Заходнім паўшар'і, яшчэ жывыя беларускія буржуазныя нацыяналісты. За мізэрныя падачкі з панскага стала імперыялістаў у сваіх газетах яны не саромеюцца выліваць бруд і паклёп на Беларусь і яе народ. А газета «Голас Радзімы» на сваіх старонках заўсёды дае ім належны адпор. Я ведаю, што нярэдка гэта памагае вывесці з падману і дазволіць правільна ацэньваць падзеі і тых, у каго раней розум і свядомасць былі атручаны антысавецкай прапагандай.

Таму, у сувязі з юбілеем газеты «Голас Радзімы» — выхадам у красавіку 1987 года яе 2000-га нумара, мне хочацца шчыра і ад усяго сэрца павіншаваць калектыў рэдакцыі і пажадаць вам усім шчасця, добрага здароўя, вялікіх поспехаў у рабоце і барацьбе за захаванне міру ва ўсім свеце. Яшчэ хачу пажадаць, каб у газеты з'явілася больш новых падпісчыкаў, каб як мага больш нашых суайчыннікаў, якія жывуць за мяжой, змаглі, як і я, чытаць гэтую вельмі цікавую газету і іншую літаратуру, што вы прысылаеце. Няхай «Голас Радзімы», як і раней, садзейнічае ўмацаванню духоўных і культурных сувязей замежных землякоў з іх любімай Радзімай.

**Аляксандр КРАШАНІННІКАЎ.**

ЗША.

---

У КРАСАВІКУ гэтага года рэдакцыя выпусціць юбілейны 2000-ны нумар «Голасу Радзімы». У сувязі з гэтым хачу павіншаваць рэдакцыю і падзякаваць за многія шчаслівыя дні, якія правёў за чытаннем вашай газеты, і за радасць перапіскі з вамі. Дзякуючы гэтаму, я атрымліваю вялікае маральнае задавальненне і адчуваю сябе шчаслівым, што маю дачыненне да ўсіх вялікіх спраў, якія разгортваюцца ў Савецкім Саюзе. «Голас Радзімы» памагае мне быць у курсе падзей, якія адбываюцца на Радзіме. Менавіта з яго старонак я ведаю пра ўсе важныя выступленні савецкага кіраўніка М. С. Гарбачова аб знешняй і ўнутранай палітыцы Краіны Саветаў. Многа расказвае газета аб гісторыі і культуры Беларусі, аб навінках літаратуры. Дзякуючы «Голасу Радзімы», я стаў лепш чытаць і разумець цудоўную беларускую мову.

У пяцідзесятым нумары за мінулы год я прачытаў гутарку карэспандэнта «Голасу Радзімы» з народнай артысткай БССР М. Захарэвіч. Мне спадабаліся яе словы: «Жыццё не стаіць на месцы. І таму трэба спяшацца жыць, каб паспець як мага больш зрабіць карысных спраў». Для мяне адной з такіх карысных спраў з'яўляецца чытанне «Голасу Радзімы». Гэта газета адыгрывае ў маім жыцці ролю настаўніка. Яна вучыць нас, славянскіх эмігрантаў, што такое сацыялізм, вучыць, як па-сапраўднаму любіць Радзіму, як змагацца за мір ва ўсім свеце.

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

# «ГОЛАС РАДЗІМЫ» — 2000. ЧЫТАЧЫ ПРА СВАЮ ГАЗЕТУ

ЛІЧУ сваім абавязкам напісаць некалькі слоў адносна таго, які ўплыў мела і мае газета, што так верна знаходзіла мяне па ўсіх новых адрасах, і так верна падтрымлівала маральна.

Мушу прызнацца: не магу ўспомніць, калі я пачаў чытаць «Голас Радзімы». Было гэта даўно, недзе ў пяцідзесятых гадах, тады газета называлася «За вяртанне на Радзіму».

Што газета дае для мяне асабіста? У першую чаргу, гэта мая родная мова. Тая мова, якую я пачуў, яшчэ седзячы на каленях маёй маці.

Па-другое, гэта мясціны мае, якія прыхільна мне гавораць «добры дзень» многімі, многімі галасамі.

Паведамленні аб падзеях на Беларусі—гэта і паведамленні аб падзеях у Савецкім Саюзе. А закрыць вочы на ўсё, што адбываецца ў Савецкім Саюзе, толькі дзівак надумаў бы.

Непрыемна перажываць капіталістычныя крызісы, але для чужынца яны яшчэ больш непрыемныя, таму што чужынец з'яўляецца заўсёды іх першай ахвярай.

Да гэтага трэба дадаць яшчэ «дэмакратычнае» нацкоўванне людзей, быццам крызіс існуе па віне чужынцаў.

Калі чалавек захоча перавесці крыху дух, дык органы вяшчання зараз жа нагружаюць яго пасквілямі на сацыялізм.

Тут вельмі моцная патрэбна апора супраць усяго гэтага. Менавіта «Голас Радзімы» і дае такую апору.

Апрача таго, ёсць вельмі цікавая інфармацыя на старонцы «Падзеі, людзі, факты» адносна найноўшых адкрыццяў і вынаходак.

Усмешка з'яўляецца на вуснах, калі прыпамінаеш, як розныя паны цвярдзілі, што, маўляў, беларускі мужык здольны толькі да лапцяў.

Ёсць нешта для кожнага ў газеце.

Няма ніякага сумнення, газета павышае і ўмацоўвае культурны ўзровень суайчыннікаў. Ён заключаецца перш за ўсё ў тым, што чалавек у кантакце з Бацькаўшчынай, з яе літаратурай, навукай.

Культура нашай Радзімы вельмі багатая, і чалавек, які на яе апіраецца, мае моцную культурную і маральную базу.

Кожны раз, прыехаўшы на Радзіму, прыкмячаю, што маральна я ўсё-такі крыху адстаю ад сярэдняга свайго суродзіча на Радзіме. Напрыклад, у справе грашовых расходаў я намнога скупейшы. Гэта таму, што тут, у Вялікабрытаніі, у чалавека няма гарантыі на заўтра. Надзея, калі яна можа быць нагул, ёсць толькі на тое, што сёння ляжыць у кішэні. Таму інстынкт самазахавання штурхае чалавека назапасіць як мага больш сёння. З гэтым інстынктам цяжка змагацца. Але ж можна распрацаваць рацыянальны падыход да такога пытання. У гэтым зноў памагае роднае слова з Бацькаўшчыны.

Хачу дадаць, што роднае слова знаходжу і ў шматлікіх кніжках, якія дастаў дзякуючы «Голасу Радзімы» і Таварыству «Радзіма».

Прабачце, я разгаманіўся, як дзіця, якое зноў сустрэлася з маткай пасля доўгай разлукі. Бачыце, кожны ёсць дзіця сваёй маткі, нягледзячы на свой век...

Хочацца дадаць, што меў я і яшчэ адну паслугу ад «Голасу Радзімы»: знайшлі мне чалавека, якога я доўга шукаў і ніяк не мог знайсці, хоць ён і не вельмі далёка ад мяне жыў.

Дык моцна гучы ты, словенька роднае!
І да вушэй нат гл... дайдзі.
І ўсё, што ў свеце ёсць добрае,
Ты яго нам на радасць найдзі.

У заключэнне ха... падзякаваць «Голасу Радз... і Таварыству «Радзіма» за выдатную духоўную падтрымку і пажадаць у далейшым плённай працы ў імя міру, свабоды і справядлівасці.

**Мікалай ЯНУШЭВІЧ.**

Вялікабрытанія.

ВЯЛІКАЕ дзякуй за тую неацэнную дапамогу, якую вы аказваеце нам, хто жыве на чужыне. Яна вельмі здорава памагае не адчуваць сябе адарваным ад Радзімы. Асабліва хачу падзякаваць за вельмі дарагі для мяне падарунак — кнігу А. Афанасьева «Палын у чужых палях». У ёй коратка расказваецца пра цярністы шлях, пройдзены нашай эміграцыяй. Аўтар піша аб гнёздах белагвардзейшчыны, аб розных фашысцкіх недабітках. Але нямала месца ў кнізе адводзіцца і тым эмігрантам, хто, нягледзячы ні на якую галечу, цяжкія выпрабаванні, не прадаў сваю Радзіму і не страціў сумлення. Аб гэтым я чытаў з асаблівай цікавасцю. Калі дайшоў да таго месца, дзе гаворыцца аб маіх таварышах, з якімі разам ішлі ў атаку ў Іспаніі, перад вачыма зноў паўстала карціна, як гублялі ў баі лепшых сяброў, паўзлі цераз іх трупы, самі былі паранены, але не плакалі, а тут заліўся слязамі. І цяпер пішу, а слёзы льюцца.

Чытаючы апошнюю вашу газету, звярнуў увагу на тое, што праз пару тыдняў выйдзе ўжо 2000-ны нумар «Голасу Радзімы». Вельмі гэтаму здзівіўся і ўзрадаваўся, што ўжо так доўга мы падтрымліваем з вамі сувязі. Дакладна не помню, але мне здаецца, што прыходзіць да нас газета з дня выхаду першага нумара. Мне нялёгка чытаць. Дзяцінства і юнацтва прайшлі яшчэ да Савецкай улады. А хіба мог тады сын бедных сялян нават думаць пра нейкую школу? Зусім іншая справа сёння, калі на маёй Радзіме любы чалавек можа вучыцца дзе і колькі хоча. А вучыў грамату самастойна. Але не прапускаю ніводнага нумара і чытаю ўсё, як у нас гавораць, ад вокладкі да вокладкі. Нам на чужыне цікава ведаць, што робіцца на нашай любімай Радзіме. Аб гэтым вельмі добра расказвае ваша газета. Я атрымліваю і іншыя газеты з Савецкага Саюза. Яны, у тым ліку і «Голас Радзімы», з'яўляюцца нашымі даведнікамі ў барацьбе за мір, таму што тлумачаць сутнасць падзей, якія адбываюцца ў свеце, расказваюць праўду аб міралюбівай знешняй палітыцы нашай Радзімы. І гэта дае нам магчымасць аргументавана абвяргаць надуманыя довады праціўнікаў разрадкі і розных недабіткаў, якіх тут, на жаль, нямала. Ну а я, як вы ўжо ведаеце, стары салдат вайны з фашызмам у Іспаніі. Хаця ўжо хутка пойдзе 81-шы год, але яшчэ ў страі. І пакуль ногі носяць, буду хадзіць і распаўсюджваць лістоўкі, збіраць сродкі ў Фонд міру і ў фонд нашых рабочых газет, якія нясуць людзям праўду. Я значуся ў кіруючым камітэце прыхільнікаў барацьбы за мір нашага горада Ванкувера. Цяпер наш галоўны клопат — падрыхтоўка да Маршу міру, які адбудзецца 25 красавіка. Ужо сёння вядома, што ў ім прымуць удзел звыш двухсот трыццаці прафсаюзных і культурных арганізацый, царкоўныя суполкі і некаторыя палітычныя партыі, вядома ж, у іх ліку і наша Камуністычная партыя.

У заключэнне хочам павіншаваць вас з юбілейным нумарам, перадаць прывітанне ўсім супрацоўнікам газеты «Голас Радзімы» і Беларускага таварыства «Радзіма» і пажадаць вам поспехаў у вашай высакароднай рабоце.

**Уладзімір і Марыя ГАЎРЫЦКІЯ.**

Канада.







У гэтай падборцы здымкі розных гадоў. На іх нашы суайчыннікі-турысты, якія былі гасцямі Мінска. Многія з іх нарадзіліся на беларускай зямлі, тут прайшло іх дзяцінства і юнацтва, а потым былі доўгія гады разлукі з Бацькаўшчынай. Усё цяпер тут новае і незнаёмае. Здзіўляюць і радуюць гасцей экспанаты Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі, беларускія аўтамабілі, бясконцымі бываюць гутаркі са сваякамі, калі столькі трэба расказаць, выплакаць, успомніць...

ДАРАГІЯ сябры! Як хутка ляціць час! Вось ужо і 2000-ны нумар нашай газеты «Голас Радзімы». Мы шчыра і сардэчна віншуем увесь калектыў рэдакцыі з гэтым знамянальным юбілеем.

Колькі было затрачана сіл, энергіі, працы! Колькі добрага, новага, павучальнага і радаснага прынёс кожны з гэтых дзвюх тысяч нумароў у дамы суайчыннікаў на чужыне!

Калі да мяне трапіў упершыню «Голас Радзімы», я не магла прачытаць адразу і некалькіх радкоў. На вочы набягалі слёзы. Я ўвесь час шукала што-небудзь знаёмае для сябе—назву горада, вёскі ці здымак. Потым стала чытаць усё запар, стараючыся як мага больш даведацца новага пра нашу Беларусь. Асабліва запомніліся першыя нумары, якія я пачала атрымліваць у 1962 годзе. Чытала іх і перачытвала, а потым хавала і праз некаторы час зноў даставала і чытала. Цяпер ужо прывыкла. Здаецца, што гэта нармальная з'ява—атрымліваць газету. А адбяры яе ў нас—і будзе зноў пуста, і тады па-сапраўднаму зразумееш, якое вялікае месца займае ў нашым замежным жыцці газета «Голас Радзімы». Магу без перабольшання сказаць, што яна стала для нас сапраўдным спадарожнікам жыцця. Атрымліваючы рэгулярна газету, мы знаходзімся ў курсе ўсіх спраў, усіх вялікіх падзей не толькі ў БССР, а і ўсёй Савецкай краіны. Калі б мы яе не атрымлівалі, то з чым маглі б звяраць, дзе праўда, а дзе няпраўда ў тым, што пішуць і гавораць тут, у Бельгіі, аб нашай Радзіме, аб міжнародных праблемах?

Цікава чытаць расказы карэспандэнтаў пра жыццё сучасных вёсак і гарадоў, апісанне прыроды. А наша нацыянальная беларуская кухня! А песні! Усё трэба, усё кранае. І яшчэ, чытаючы газету на беларускай мове, я не забываю сваю родную мову і ганаруся тым, што я беларуска. Я люблю Беларусь. Люблю яе прыроду, мову, людзей. Цікава нам чытаць у газеце і аб жыцці нашых суайчыннікаў у іншых краінах, аб іх паездках на Радзіму, аб адпачынку дзяцей у піянерскіх лагерах, аб усёй рабоце Беларускага таварыства «Радзіма».

Доўгага творчага жыцця нашаму юбіляру — газеце «Голас Радзімы», якая нясе праўду аб савецкай рэчаіснасці, праводзіць вялікую работу на карысць развіцця культурных сувязей з маці-Радзімай нас, суайчыннікаў, віхурай вайны адарваных ад яе, але якія любяць і жадаюць ёй усяго самага добрага—Міру, Дружбы, Прагрэсу!

**Марыя ГАРОХ.**

Бельгія.

САРДЭЧНА віншую ад імя калектыву часопіса «Дружба» газету «Голас Радзімы» з вялікім юбілеем — выхадам 2000-га нумара!

На працягу многіх год Беларускае таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом давала магчымасць людзям, адарваным ад Радзімы, знаёміцца з усімі дасягненнямі Савецкага Саюза ў галіне культуры і прамысловасці. Газета абуджала ў суайчынніках лепшыя пачуцці, падтрымлівала ў іх упэўненасць у тым, што, нягледзячы на існуючае яшчэ ў свеце насілле некаторых вялікіх краін над малымі, расізм, гонку ўзбраенняў, чалавецтва наперадзе чакае лепшая будучыня і мірная палітыка Савецкага Саюза атрымае перамогу.

На думку некаторых чытачоў, у газеце можна было б расшырыць рубрыку, прысвечаную міжнародным падзеям, таму што суайчыннікі маюць крайне аднабаковую інфармацыю буржуазнай прэсы аб гэтым.

Жадаю вам здароўя, поспехаў у такой важнай для нас дзейнасці!

З глыбокай павагай

**Эразм ЛЯВІЦКІ.**

Аўстралія.

ЯКУЮ ролю адыгрывае «Голас Радзімы» ў маім жыцці? Атрымліваючы вашу штотыднёвую газету, я заўсёды чытаю яе з вялікай цікавасцю. Яна прыносіць інфармацыю аб падзеях на Радзіме. А ўсё, што адбываецца там у апошнія гады, успрымаю з задавальненнем і адабрэннем. Я атрымліваю вашу газету прыблізна шэсць год. Шкада, што не ведаў пра яе раней. І, вядома, хачу і ў далейшым атрымліваць «Голас Радзімы» і быць вашым чытачом.

**Браніслаў АЎГУСЦІНОВІЧ.**

ФРГ.

## ЭКРАНІЗАВАНЫ НОВЫ ТВОР ВАСІЛЯ БЫКАВА

# ЗНАК БОЛЮ, БЯДЫ І ПАКУТ

«Жорсткая праўда аб вайне, яе псіхалагічныя, маральныя моманты будуць з вялікай карысцю служыць людзям і чалавецтву ў яго нястомнай барацьбе за мір супраць ядзернага вар'яцтва, якое пагражае ліквідаваць жыццё на зямлі». Гэтыя словы народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава можна лічыць эпіграфам да новай кінакарціны «Знак бяды», пастаўленай на студыі «Беларусьфільм» заслужаным дзеячам мастацтваў БССР рэжысёрам Міхаілам Пташуком.

Васілю Быкаву ў кінематографе адначасова шанцуе і не шанцуе. Шанцуе таму, што амаль усе яго значныя творы экранізаваны. Але, на жаль, не кожная экранізацыя быкаўскай прозы была ўдалай.

Аповесць «Знак бяды», удастоеная Ленінскай прэміі, зацікавіла беларускіх кінематаграфістаў сваёй складанасцю, паліфанічнасцю ў адлюстраванні самых глыбінных плыняў народнага жыцця. Хаця проза В. Быкава цяжкая для перакладу на мову кіно, усё ж пастаноўшчыкі фільма вырашылі здымаць стужку не «па матывах», а па самой аповесці, гэта значыць дакладна перадаць яе сутнасць, філасофскую канцэпцыю ў максімальным аб'ёме, пазбягаючы пры гэтым халоднай натуралістычнай ілюстрацыйнасці.

Як у аповесці, так і ў сцэнарыі, а потым і ў фільме паказаны яркія лёсы сціплых людзей з вялікім сэрцам, якія ў цяжкія гады ваеннага ліхалецця знайшлі ў сабе сілы не скарыцца ворагу. Гэту трагічную пару галоўных герояў кінарасказу — пажылых мужа і жонку Петрака і Сцепаніду вельмі пераканаўча ўвасабляюць на экране акцёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Генадзь Гарбук і заслужаная артыстка РСФСР Ніна Русланава.

Большасць падзей фільма адбываецца на хутары восенню 1941 года. У Васіля Быкава гэты хутар выпісаны вельмі дакладна, рэльефна. З многімі маляўнічымі, характэрнымі для беларускай вёскі дэталямі апісаны ў кнізе хата, дзе жывуць Пятрок і Сцепаніда, іх сад і суглінiстае поле, што раскінулася за ім. Мастак карціны Уладзімір Дзяменцьеў і галоўны аператар Таццяна Логінава дакладна следуюць апісанню хутара, рэстаўруючы на экране побыт даваеннага, потым часова захопленага гітлераўцамі кутка роднай зямлі. Гэта ў многім дапамагае перадаць і захаваць стыль В. Быкава, аскетычны, строгі, амаль дакументальны. Тут глядач не знойдзе кінематаграфічных упрыгажэнняў, павярхоўных метафар, якія, магчыма, былі б эфектнымі на экране, але, несумненна, знізілі б трагічнае гучанне гэтага суровага і жорсткага фільма.

...Восенню 41-га на пастой на хутар Сцепаніды і Петрака прыбылі акупанты. Пятрок імкнецца пазбягаць канфліктаў з фашыстамі, выконвае ўсе іх патрабаванні, нават падлашчваецца да іх. Сцепаніда ж, рэзкая, нястрыманая ў абыходжанні, ад пагарды да захопнікаў, пасіўнага непрымання хутка пераходзіць да адкрытага супраціўлення. За адмову даіць карову нямецкі фельдфебель жорстка збіў жанчыну. На наступны дзень Сцепаніда выдаіла карову ў лесе на траву, а ўначы ўтапіла ў калодзежы стрэльбу, пакінутую нядбайным гітлераўцам без нагляду. Разбурыўшы гаспадарку Сцепаніды, немецкія салдаты, нарэшце, выбраліся са двара, але на змену ім з'явіліся паліцаі. Яны і забралі апошняе, што заставалася ў гаспадароў хутара. Не мог усё ж такі сцярпець здзекаў і Пятрок. Выказаў у твар карнікам усё, што думаў пра іх, і загінуў.

Фільм амаль даслоўна перадае горкія, драматычныя старонкі аповесці, якія расказваюць аб лёсе Сцепаніды пасля смерці мужа. Перажыўшая смерць Петрака, даведзеная да крайнасці здзекамі гітлераўцаў і паліцаяў, Сцепаніда рашаецца на апошні крок. Даведаўшыся пра бомбу, якая не разарвалася, гэтая немаладая, нядужая жанчына выменьвае яе ў вясковага скупянды Карніла (артыст Уладзімір Куляшоў) на схаванага ў лесе парсюка. Бомбай Сцепаніда вырашае ўзарваць мост, які так патрэбны фашыстам, што рвуцца на ўсход. Так простая беларуская сялянка імкнецца ўнесці свой уклад у барацьбу з ворагам.

Кінафільм «Знак бяды» — таксама гісторыя ўзыходжання. Гераіні фільма Сцепанідзе не хапае сіл перамагчы, але іх хапае на тое, каб пайсці з жыцця непераможанай. У фінальных кадрах мы бачым Сцепаніду, калі яна замыкаецца ў хаце, а потым падпальвае яе. Гераіня ў свой смяротны час узнімаецца вышэй абставін, вышэй пакут, вышэй за саму смерць.

Што дало сілы гэтай жанчыне так загінуць? Адказ атрымліваем з рэтраспекцыі, якая паказвае гісторыю жыцця Сцепаніды. Лікбез: немаладыя людзі завучваюць першыя радкі буквара: «Мы не рабы, рабы не мы...» І не проста завучваюць, яны асэнсоўваюць гэтыя вялікія словы.



Малапісьменная сялянка, задушаная галечай і непасільнай працай, яна з нараджэння была надзелена абвостранай сумленнасцю, гатоўнасцю заўсёды ўступіць у бой за справядлівасць. Яе рэзкасць, суровасць акупляюцца бескарыслівай дабратой, вялікадушнасцю, маральнай сілай і стойкасцю.

Такая яна, Сцепаніда, жывая душа аповесці і фільма.

Летась шырокую вядомасць ва ўсім свеце беларускаму кіно прынёс фільм «Ідзі і глядзі», пастаўлены па «Хатынскай аповесці» Алеся Адамовіча. Фільм «Знак бяды» народжаны таксама цудоўнай прозай, прозай Васіля Быкава. Абодва творы родніць тэма болю, бяды, пакут, што нясе вайна.

**Яўген КРУПЕНЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: кадр з кінафільма «Знак бяды».**

## ЛЮБІМАЕ ДЗІЦЯЧАЕ СВЯТА

«Рэспубліка друкаваных радкоў», «Краіна Чыталія» — назваў такіх не знойдзеш ні ў адным атласе. І ўсё ж юным мінчанам, якія прыйшлі 24 сакавіка на адкрыццё Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі ў Вялікі тэатр оперы і балета БССР, пашчасціла пабываць у гэтай дзіўнай дзяржаве. З парога іх акружылі старыя знаёмыя: Чырвоная Шапачка, Міколка-паравоз, вучоны Кот, Алі-Баба і многія іншыя кніжныя персанажы.

Удзельнікаў і гасцей урачыстага адкрыцця вітала старшыня аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі ў Беларускай ССР, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай.

З цікавасцю слухалі юныя чытачы сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў РСФСР, члена-карэспандэнта Акадэміі педагагічных навук, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і РСФСР пісьменніка Анатолія Алексіна, старэйшага беларускага дзіцячага пісьменніка, уладальніка міжнароднага дыплома імя Х. К. Андэрсена Васіля Вітку.

Лепшыя дзіцячыя калектывы мастацкай самадзейнасці прынялі ўдзел у святочным канцэрце.

У гэты ж дзень у кінатэатры «Піянер» пачаўся фестываль фільмаў-экранізацый дзіцячых кніг. У выставачнай зале Дома кнігі адкрылася экспазіцыя, арганізаваная выдавецтвам «Юнацтва».

Любімае дзіцячае свята пачало сваё шэсце па рэспубліцы.

*ТАЯМНІЦЫ КНІЖНЫХ СХОВІШЧАЎ*

# СЯРОД СТАРАЖЫТНЫХ РУКАПІСАЎ

У апошні час вывучэнне рукапісных фондаў бібліятэк і музеяў нашай краіны набыло вельмі шырокі размах. Пачалася выключна вялікая і вельмі неабходная праца па стварэнню Зводнага каталога старажытных рукапісаў СССР. У выніку гэтай абагульняючай працы атрымаюць новае жыццё невядомыя дагэтуль варыянты, рэдакцыі, спісы розных твораў, а магчыма, «уваскрэснуць» і ўвогуле забытыя літаратурныя помнікі.

І ў сховішчах старажытных кніг БССР сёння яшчэ знаходзіцца шмат чаго невядомага і недастаткова вывучанага. Так, у аддзеле рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна зберагаецца цікавы сярэдневяковы рукапісны твор «Тайная тайных, або Арыстоцелевы врата», пераклад якога на старажытнабеларускую мову быў зроблены невядомым аўтарам дзесьці ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў. Лексічныя і фанетычныя асаблівасці мовы твора сведчаць пра тое, што ён перакладаўся на старажытнабеларускую мову менавіта ў гэты час. У ім шырока ўжываюцца такія словы, характэрныя для XV—XVI стагоддзяў, як «маршалок», «господар», «посполітое», «шкода», «скарб», «пільный», «збудованіе», «жонка», «ганьба» і іншыя. Дакладна вядома, што ўжо ў сярэдзіне XVI стагоддзя рукапісны твор «Тайная тайных» быў шырока распаўсюджаны ў Вялікім княстве Літоўскім. Нават Максім Грэк, які жыў у гэты час у Маскве, пазнаёміўся з ім, аб чым і паведаміў у сваім пасланні да Феадора Карпа Іванавіча.

Рукапісны варыянт «Тайная тайных» з Дзяржаўнай бібліятэкі БССР (назавём яго ўмоўна Мінскім спісам), нягледзячы на тое, што ў ім ёсць шмат арыгінальнага і непаўторнага, не знайшоў адлюстравання ў навуковых даследаваннях. Аб яго існаванні, здаецца, не ведалі дарэвалюцыйныя даследчыкі А. Сабалеўскі і М. Сперанскі, якія займаліся вывучэннем «Тайная тайных» і яго распаўсюджаннем на славянскай моўнай глебе. Ва ўсякім выпадку, у іх даследаваннях пры пералічэнні вядомых спісаў твора «Тайная тайных» нідзе не гаворыцца пра Мінскі спіс. Не ўпамінаецца ён таксама і ў апошнім, занадта скарочаным, рускім выданні 1984 года («Помнікі літаратуры старажытнай Русі. Канец XV — пачатак XVI ст.»). Мінскі рукапіс з'яўляецца адным са старэйшых спісаў твора. Надпісы, зробленыя на вокладцы ўладальнікамі, сведчаць аб тым, што да 1607 года ён ужо неаднаразова пераходзіў ад адной асобы да другой. Спачатку рукапіс належаў нейкаму пану Ярошу Каспаровічу Ледзінскаму, а пасля яго сваяку Рыгору.

Напісаны паўуставам, кірыліцай, Мінскі рукапіс складае 89 лістоў. Старанна і добра аформлены, ён нават і цяпер чытаецца надзвычай лёгка. Але ўсё ж час і, відаць, не зусім спрыяльныя ўмовы, у якіх рукапіс неаднойчы апынаўся за ўсю доўгую гісторыю існавання, зрабілі сваю справу: пачатковыя лісты твора згублены назаўсёды.

Дзякуючы намаганням вучоных, зараз вядома, што твор «Тайная тайных» нарадзіўся на Блізкім Усходзе каля VIII—IX стагоддзяў. Па змесце ён уяўляе сабой збор розных павучанняў, быццам бы зробленых старажытным філосафам Арыстоцелем (384—322 гады да нашай эры) сваёму вучню Аляксандру Македонскаму. На самай жа справе, твор не належыць Арыстоцелю, ён быў напісаны значна пазней і, хутчэй за ўсё, не адным, а некалькімі аўтарамі. Першапачатковы варыянт «Тайная тайных» вядомы на арабскай мове ў дзвюх рэдакцыях — поўнай і скарочанай. Прыблізна ў XII — XIII стагоддзях Філіп Трыпольскі робіць пераклад кнігі на лацінскую мову. У гэты ж час аль-Харызі стварае яўрэйскі варыянт «Тайная тайных». Пазней, у XV стагоддзі, у Кёльне з'яўляецца друкаванае выданне на лацінскай мове пад назвай «Сэкрэтум сэкрэторум». Далей «Тайная тайных» з лацінскай перакладаецца на англійскую, нямецкую, французскую, іспанскую, італьянскую, чэшскую, харвацкую і іншыя мовы.

Вельмі складаная гісторыя рукапіснага твора «Тайная тайных» на старажытнабеларускай моўнай глебе. Адразу ж пасля яго з'яўлення хрысціянская царква адносіць твор да апакрыфічных кніг — не адпавядаючых кананічным рэлігійным тэкстам. Таму ён быў забаронены, як «ератычная», «хлуслівая» кніга. У XVII стагоддзі «Тайная тайных» разам з іншымі рукапісамі і старадрукамі трапляе ў каталіцкія індэксы забароненых кніг.

Твор «Тайная тайных» на працягу стагоддзяў вабіў чытача мастацкай арыгінальнасцю і непаўторнасцю зместу. Яго Мінскі варыянт уключае некалькі розных па сваёй накіраванасці апавяданняў. Пачынаецца ён «Прамовай Петрыкея збавіцеля» (першыя лісты адсутнічаюць), у якой Петрыкей падрабязна тлумачыць, што прымусіла Арыстоцеля павучаць вялікага палкаводца і дзяржаўнага дзеяча антычнасці Аляксандра Македонскага. Далей асобна змешчаны «Арыстоцелевы врата» (складаецца з васьмі раздзелаў), дзе таксама робіцца розныя настаўленні Македонскаму, у прыватнасці, як павінен паводзіць сябе імператар, каб зрабіць дзяржаву больш магутнай і ўмацаваць сваю ўладу. Асабліва цікавымі з'яўляюцца раздзелы пра навуку фізіягноміку, малазнаёмую ці ўвогуле невядомую сучаснаму чалавеку. Фізіягноміка — гэта старажытная навука, з дапамогай якой лічылася магчымым па знешнасці чалавека вызначыць яго характар і духоўныя якасці. Нярэдка высновы фізіягномікі для сучаснага чытача гучаць нават гумарыстычна. Вось, напрыклад, як можна меркаваць пра чалавека па яго твары: «У каго твар з мясістымі сківаццамі — той грубы і дурны, а ў каго худы і жоўты — той злосны і ашуканец». Занадта белая скура і блакітныя вочы гавораць аб бессаромнасці, вераломстве і лёгкадумнасці чалавека.

Шмат месца ў рукапісах займаюць лекарскія павучанні. Падрабязна паведамляецца, пры якіх хваробах якімі лекамі карыстацца. Даволі надзённа гучаць пажаданні пра ўмеранае харчаванне і парады, як ратавацца ад пераядання, калі такое здараецца. Звяртаецца таксама ўвага на карысць для здароўя розных камянёў і іншых рэчаў.

Звычайна ў розных варыянтах рукапіснага твора «Тайная тайных», пасля паведамлення Аляксандру Македонскаму аб важнасці для яго жыцця гэтай кнігі, ідзе апошні раздзел: «Сказ пра елінскага філосафа прамудрага Арыстоцеля». У Мінскім жа спісе гэтага твора няма, замест яго змешчана апавяданне «Аб сямі зорках вялікіх», дзе падаюцца надзвычай цікавыя астранамічныя веды таго часу. Увогуле непасрэднае знаёмства чытача са старажытным рукапісным творам «Тайная тайных, або Арыстоцелевы врата» можа ўзбагаціць больш глыбокім веданнем гісторыі літаратуры і культуры беларускага народа.

**Іван САВЕРЧАНКА.**

Красавіцкія ледзяшы.

Фота С. КРЫЦКАГА.

## СПОРТ

Канькабежцы і лёгкаатлеты, хакеісты і футбалісты... Чэмпіянаты свету і міжнародныя турніры, першынствы краіны і рэспублікі... Спаборніцтвы на любы густ. Аматары спорту літаральна не паспяваюць сачыць за перыпетыямі барацьбы.

Нагадаем галоўныя спаборніцтвы, дзе вызначыліся прадстаўнікі Беларусі.

Дзве сустрэчы правялі ў гасцях хакеісты мінскага «Дынама» са зборнай Польшчы. Гульні завяршыліся перамогай беларускіх спартсменаў — 3:2 і 2:1.

На традыцыйным міжнародным турніры па дзюдо, які завяршыўся ў Будапешце, мінчанка Ірына Емяльянава заваявала залаты медаль.

Добра выступаюць на міжнародным турніры па скачках у ваду «Веснавыя ластаўкі» ў Маскве беларускія спартсмены. З фіналістаў адзначым Аляксея Когалева. Ён заняў другое месца.

А як справы ў нашых спартсменаў на ўсесаюзных чэмпіянатах? Калі гаварыць наогул, то добра.

Пяціразовы чэмпіён свету Аляксандр Раманькоў сваю чарговую перамогу атрымаў на 50-м першынстве краіны па фехтаванню ў Маскве.

У выдатнай форме яшчэ адзін мінчанін — Уладзімір Япрынцаў. На чэмпіянаце Савецкага Саюза па барацьбе самба ў Ташкенце ён таксама перамог усіх сваіх сапернікаў.

Сярод лідэраў баскетбалісткі «Гарызонта», гандбалісты і валейбалісты СКА Беларусі. Менавіта яны цяпер вядуць барацьбу за медалі першынства краіны і задаюць тон у спаборніцтвах.

Як упрыгожыць сваё жыллё! Памагчы ў гэтым змогуць члены секцыі аранжыроўкі кветак і фларыстыкі пры мінскім Таварыстве аховы прыроды. Яны пастаянна наладжваюць свае выстаўкі, арганізуюць кансультацыі, выступаюць з гутаркамі.

НА ЗДЫМКАХ: у зале выстаўкі; работа інжынера С. КОРЗУН пад назвай «Без пяці хвілін дванаццаць». Фота Ю. ПАЎЛАВА.


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ



НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 519